© PDF: Kamunikat.org 2020

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### РАЗМОВЫ Л. БРЭЖНЕВА І В. БРАНДТА ЗАКОНЧАНЫ

Трохдзённыя размовы генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева і канцлера ФРГ В. Брандта, якія адбываліся ў Крыме, закончыліся ў суботу 18 верасня г.г.

Як інфармуюць прэсавыя агенцтвы свету, размовы гэтыя адбываліся ў атмасферы шчырасці, узаемнага зразумення і мелі канструктыўны характар. У іх абмяркоўваліся справы адносін паміж ФРГ і СССР, а таксама міжнародныя праблемы, якія цікавяць абедзве дзяржавы. Пры гэтым Л. І. Брэжнеў не выключыў магчымасці, што ён наведае Федэратыўную Рэспубліку Германіі.

### ЕГІПЕТ І ІЗРАІЛЬ

У пятніцу 17 верасня бягучага года ізраільскі ваенны самалёт пераляцеў на заходні бераг Суэцкага канала і быў збіты егіпецкай проціпаветранай абаронай. У суботу 18 верасня г.г. група ізраільскіх ваенных самалётаў абстраляла пазіцыі егіпецкіх войск, але ніводная з выпушчаных імі ракет не трапіла ў цэль.

На працягу ўжо значнага часу Ізраіль праводзіць яўрэізацыю захопленых ім раней арабскіх зямель, г.зн. зганяе карэннае арабскае насельніцтва з яго адвечных сяліб і засяляе іх яўрэйскімі каланістамі.

І яўрэізацыя, і акты агрэсіі супраць Егіпецкай Арабскай Рэспублікі з'явіліся прычынай, з-за якой прадстаўнік Егіпта ў ААН дамагаецца выключэння Ізраіля з Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

### ГОД ДЗЕЙНАСЦІ НАРОДНАГА ЎРАДА Ў ЧЫЛІ

Упершыню ў сваёй 160-гадовай гісторыі 6,5-мільённы чылійскі народ адзначыў 18 верасня г.г. гадавіну здабыцця незалежнасці ва ўмовах народнай улады. На працягу няцэлага года кіравання дзяржавай урад С. Алленда ўвёў шмат дэмакратычных рэформ. Нацыяналізаваў ён шахты медзі, жалеза, салітры і вугалю; асноўныя галіны замежнага гандлю; самыя вялікія металургічныя заводы і тэкстыльныя фабрыкі; пераняў у дзяржаўны кантроль банкі; паскорыў зямельную рэформу; павысіў заробкі рабочым. Аднак чылійская буржуазія яшчэ мае ў дзяржаве моцную эканамічную і палітычную пазіцыю. Рэакцыя прыкладае ўсе намаганні, каб звергнуць урад С. Алленда. Яна сабатуе ўрадавыя мерапрыемствы, распаўсюджвае ілжывыя інфармацыі аб працы ўрада, разлічваючы ў сваёй барацьбе на падтрымку Злучаных Штатаў Амерыкі.

### ТЭРОР У БАЛІВІІ

У суседняй з Чылі Балівіі фашысцкі рэжым палкоўніка Банцэра ліквідаваў усё школьніцтва ў гэтай 4,5-мільённай краіне. У пачатку верасня былі закрыты ўсе вышэйшыя школы, а 15 верасня г.г. — усе сярэднія і пачатковыя. Банцэр сваім дэкрэтам, якому няма падобнага ў навейшай гісторыі свету, пазбавіў працы ўсіх настаўнікаў, 25 тысячам студэнтаў спыніў заняткі, а паўмільёну дзяцей і моладзі забараніў хадзіць у школу.

Варта напомніць, што рэжым Банцэра быў накінуты Балівіі Злучанымі Штатамі Паўночнай Амерыкі. Нядаўна паўночна-амерыканскія банкі далі рэжыму Банцэра 37 мільёнаў долараў пазыкі і абяцаюць далейшую дапамогу.

(мг)



## БССР

### У ГОНАР КАСТРЫЧНІКА

Рыхтуючыся да сустрэчы 54-ай гадавіны Вялікага Кастрычніка, шматтысячны калектыў Аршанскага ордэна Леніна льнокамбіната выпусціў звыш плана мільён квадратных метраў высокаякасных тканін і амаль 300 тон пражы. Некаторыя рабочыя камбіната працуюць ужо ў лік наступнага года. Сярод іх — дэпутат Вярхоўнага Савета СССР, ткачыха Лідзія Аксёненка.

### ПЕРШЫЯ

Хлебаробы Мінскага раёна былі ініцыятарамі спаборніцтва гаспадарак рэспублікі за высокаякаснае паляпшэнне кармавой базы. Яны абавязаліся нарыхтаваць па тры тоны сенажу на адну карову. Як падаюць газеты, ініцыятары спаборніцтва найперш перавыканалі свае абавязацельствы. Яны нарыхтавалі ў сярэднім па чатыры тоны сенажу на адну карову.

### СЯБРЫ КНІГІ

Па ініцыятыве ўсесаюзных асветна-грамадскіх органаў 15-га верасня г.г. быў наладжаны ў Мінску злёт грамадскіх прапагандыстаў кнігі. Сябры друкаванага слова прыехалі ў сталіцу БССР з усіх куткоў краіны Саветаў, каб абмеркаваць метады распаўсюджвання літаратуры сярод працоўных. Аказваецца, што за мінулае пяцігоддзе савецкія чытачы атрымалі больш як 6 мільярдаў кніг. Звыш 260 мільёнаў экземпляраў кніг распрадалі грамадскія прапагандысты. У Беларусі налічваецца іх каля 25-ці тысяч.

### ВІЛІЯ І МІНСК

Дырэктывы XXIV з'езда КПСС рэкамендавалі: «Завяршыць будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы і ўвясці яе ў эксплуатацыю».

Зараз па ўсёй трасе разгарнулася стваральная праца на поўных парусах. Вілейская вада павінна прыйсці ў Мінск у 1974 годзе.

### ЗУБР У МУЗЕІ

Абласны краязнаўчы музей у Брэсце атрымаў нештодзённы экспанат — чучала зубра. Яго падарылі музею супрацоўнікі запаведна-паляўнічай гаспадаркі «Белавежская пушча». Новы экспанат выклікае вялікае зацікаўленне ў наведвальнікаў.

### ШКОЛА ІМЯ ПЯТРА ГЛЕБКІ

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Лівянскай сярэдняй школе, дзе вучацца юныя землякі выдатнага беларускага паэта і акадэміка Пятра Глебкі, прысвечана яго імя. Адначасова ў гэтай жа школе адкрыты літаратурны музей імя Пятра Глебкі.

### КУПАЛАЎСКАЯ «ПАЎЛІНКА»

Магілёўскі абласны драматычны тэатр рыхтуе пастаноўку вядомай п'есы Янкі Купалы «Паўлінка». Як заяўляе галоўны рэжысёр гэтага тэатра, яго творчы калектыў рашыў па-новаму прачытаць змест і сэнс агульнавядомай п'есы. «Паўлінка» паявіцца на сцэне ў кастрычніку г.г.

(вр)



## ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

17 верасня г.г. І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў некаторыя прадукцыйныя аддзелы фабрыкі камунікацыйнага абсталявання. І сакратар ЦК зацікавіўся справамі працы і жыцця калектыву. Затым Э. Герэк правёў сустрэчу з рабочым актывам, на якой закраналіся, між іншым, справы авіяцыйнай прамысловасці. У сваім выступленні Э. Герэк расказаў аб галоўных праблемах грамадска-эканамічнага развіцця нашай краіны.

### ЯРМАРКА «ВОСЕНЬ — 71»

19 верасня г.г. была афіцыйна адкрыта Познанская ярмарка «Восень—71». На ёй ёсць больш 10 тысяч экспанатаў. Вытворцы хочуць падпісаць дагаворы на прамысловыя і спажывецкія тавары агульнай вартасці 45 мільярдаў злотых. Напярэдадні адкрыцця Ярмаркі адбылася ў Познані прэс-канферэнцыя з міністрам унутранага гандлю Эдвардам Шнайдэрам, прысвечаная актуальным праблемам рынку і на тым фоне ролі Ярмаркі.

Міністр Э. Шнайдэр сцвердзіў, што м. інш. з поваду недастатковага ў адносінах да запатрабавання выкарыстання здольнасці нашай прамысловасці, выступяць недахопы некаторых будаўляных матэрыялаў, а перш за ўсё цэменту і этэрніту і г.д. З гэтых самых прычын выступіць няпоўнае забеспячэнне ў некаторыя вырабы лёгкай прамысловасці, гумовым абуткам, паперай і г.д.

Значна павялічана ў продажы колькасць мяса і мясных вырабаў, малака, масла, цукру, хлеба, булачных і шакаладных вырабаў. Нельга аднак яшчэ гарантаваць, што запатрабаванне на гэтага роду прадукты будзе поўнасцю забяспечана.

### МАНІФЕСТАЦЫЯ СУПРАЦЬ ВАЙНЫ

Нядзеля, 19 верасня, была апошнім днём сёлетняга святкавання «Дзён Майданка». З гэтай нагоды жыхары Люблінскай зямлі штогод ушаноўваюць памяць аднаго з найбольшых гітлераўскіх канцэнтрацыйных лагераў. У гэтым годзе на заканчэнне святкавання «Дзён Майданка» адбылася вялікая маніфестацыя супраць вайны жыхароў Любліна на месцы былога лагера. Ля помніка змагання і пакут сабралася каля 30 тысяч асоб, сярод якіх былі таксама былыя вязні гітлераўскіх лагераў і змагароў руху Супраціўлення, школьная моладзь і г.д. Маніфестацыю адкрыў былы вязень Майданка, прэзас любэльскага Акруговага праўлення Павел Домбэк. Прымалі ў ёй удзел старшыня Рады аховы помнікаў змагання і пакут — міністр Я. Вечорэк, І сакратар ВК ПАРП П. Карпюк, старшыня Прэзідыума ВРН — Р. Вуйцік і начальнік ЗГП — С. Баргановіч.

Бурнымі воплескамі была прынята заява 150-тысячнай арганізацыі гарцэраў і зухаў Люблінскага ваяводства аб прыступленні да рэалізацыі з'ездаўскага чыну.

Пасля маніфестацыі ля помніка былі ўзложаны вянкі і кветкі.

(яц)



## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРТЫІ

18 верасня ў Беластоку адбылося чарговае пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта партыі, прысвечанае праграме дзейнасці ваяводскай партарганізацыі ў перыяд перад VI з'ездам ПАРП.

Старшынёй пасяджэння быў І сакратар ВК тав. А. Лашэвіч. Прысутнічалі намеснік кіраўніка сельскагаспадарчага аддзела ЦК партыі тав. Рэмігіюш Іваноўскі і намеснік кіраўніка Бюро прэсы ЦК тав. Вацлаў Капусцінскі.

З шырэйшым уступным словам да дыскусіі выступіў тав. А. Лашэвіч. Ён затрымаўся на найбольш важных праблемах грамадска-эканамічнага і палітычнага жыцця Беласточчыны, якія павінны быць у цэнтры ўвагі ў час перадз'ездаўскай дыскусіі. Спецыфічнай рысай яе, як сказаў А. Лашэвіч, з'яўляецца тое, што дыскусія разгортваецца ў вельмі добрай палітычнай атмасферы ажыўлення і актывізацыі членаў партыі і ўсяго грамадства. Дзякуючы снежаньскаму павароту ў палітыцы партыі, краіна была выведзена з крызісу і паявіліся шанцы лепшага дынамічнага грамадска-гаспадарчага развіцця. Значна павялічваюцца гэтыя шанцы дзякуючы дырэктывам, прадстаўленым да дыскусіі. Яны, гэтыя дырэктывы, з'яўляючыся выражэннем прынцыпіяльнага погляду на сучаснасць і будучыню краіны, высоўваюць на першы план генеральнае заданне: як выкарыстаць увесь наш патэнцыял (асабліва людскі), каб паскорыць развіццё краіны і палепшыць умовы быту ўсяго народу

Дырэктывы аблягчаюць плённую дыскусію і мабілізуюць грамадства да творчай працы. Неабходна гэты спрыяльны клімат выкарыстаць для ўдасканальвання метадаў партыйнай працы, паляпшэння функцыяніравання дзяржаўнай і гаспадарчай адміністрацыі, а таксама ліквідацыі ўсіх праяў безідэйнасці, безгаспадарнасці і няведання. Гэтыя справы, працягваў А. Лашэвіч, павінна ўся партыя ўзяць у свае рукі і разам з усім грамадствам энергічна ўводзіць карысныя змены. Лічацца сёння не абяцанні, а канкрэтная праца. І менавіта з такім перакананнем трэба весці перадз'ездаўскую кампанію, памятаючы, што галоўнымі яе элементамі з'яўляюцца дыскусія аб далейшым грамадска-гаспадарчым развіцці краіны і канкрэтная праца.

Пасля выступлення А. Лашэвіча пачалася ажыўленая дыскусія. Дыскутанты звярталі ўвагу на неабходнасць удасканальваць партыйную працу, трымаць цесную сувязь з рабочымі калектывамі прадпрыемстваў, з жыхарамі гарадоў і вёсак. Шмат заўваг было зроблена ў адрас прадпрыемстваў і ўстаноў. Паляпшэнне іх працы было названа адным з пільнейшых заданняў партыі.

Выступіў таксама намеснік кіраўніка сельскагаспадарчага аддзела ЦК тав. Р. Іваноўскі. Ён падкрэсліў, што дыскусія над дырэктывамі не толькі створыць магчымасць паўней ахапіць важныя праблемы краіны і рэгіёнаў, але ўжо цяпер сканцэнтруе ўвагу на заданнях сённяшняга дня.

На заканчэнне пленум зацвердзіў праграму дзейнасці беластоцкай партарганізацыі перад VI з'ездам партыі. (яч)




**NIEDZIELA 26.IX**

7.45 Program dnia. 7.50 TV Kurs Rolniczy: „Zbiór zielonek i przechowywanie kiszonek". 8.25 „Przypominamy, radzimy". 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 TV Klub Śmiałych. „Sport i zabawa" — program TV NRD. 10.55 „Podanie o prawa miejskie". 11.45 Dziennik. 12.00 „Zamkowa godzina". 13.30 Finał drużynowych Mistrzostw Świata na żużlu. 16.00 „Przemiany". 16.30 „W kręgu iberyjskiej kultury" („W cztery świata strony") — rep. 17.10 PKF. 17.20 „Warszawa Bolesława Prusa" — teleturniej. 18.20 Studio 63: A. Mickiewicz — „Pan Tadeusz" księga XI „Rok 1812". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Transmisja koncertu finałowego Międzynarodowego Festiwalu „Warszawska Jesień 1971". 21.15 „Cierpienia młodego Bohaczka" — film fab. czechosł. 22.45 Magazyn sportowy.

**PONIEDZIAŁEK 27.IX**

15.20 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „Spacerkiem po kinach". 18.35 „Wariacje" — film bułg. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 VIII Festiwal Teatrów Dramatycznych: A. Camus — „Caligula". 21.35 „Chciałem, by Warszawa była wielka" — „Wielcy znani i nieznani". 22.10 „Nedbalowe groteski" — program baletowy. 22.40 Dziennik.

**WTOREK 28.IX**

9.25 „Powszednie dni". — film fab. NRD cz. I. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — M. Maeterlinck — „Peleas i Melisanda". 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Określenie wartości pokarmowej pasz". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Program publicystyczny, 17.10 „Oferty". 17.25 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Powszednie dni". — film fab. NRD cz. I. 21.35 „Czy wszystko zostało powiedziane?" („Panorama Literacka"). 22.05 Dziennik.

**ŚRODA 29.IX**

10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Siły i maszyny". 11.25 „Stracone złudzenia" — film franc. 13.40 „Wybieramy zawód". 14.50 Program dnia. 14.55 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o Puchar Klubowych Mistrzów Europy: Górnik (Zabrze) — Olimpique (Marsylia). W przerwie ok. 15.45 Magazyn ITP. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Telewizja i Ty". 17.30 Program publicystyczny. 18.00 TV Kurier Warszawski. 18.15 „Nie bójmy się jesieni". — program rozr. 18.55 Sprawozdanie sportowe. W przerwie meczu ok. 19.45 PKF. 20.50 Dziennik. 21.20 „Stracone złudzenia" — film franc. 22.15 „Światowid". 22.45 Dziennik. 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka.

**CZWARTEK 30.IX**

8.15 Matematyka w szkole: „Matematyka w klasach matematyczno-fizycznych". 9.55 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — Jerzy Gordon Byron". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Jan Kochanowski". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.40 „Ludzie z Warmii". — film dok. 17.55 „Słowo stoczniowców". 18.30 „Młodzież oskarża imperializm" — manifestacja młodzieży na Westerplatte. 19.30 Dobranoc. 19.40 Dziennik. 20.10 Teatr Kobra: M. Z. Bordowicz — „Toccata". 21.30 „Refleksje". 22.10 „Profesor Dławiduda i jego uczniowie" — opera kameralna G. Paisiello. 22.40 Dziennik.

**PIĄTEK 1.X**

8.00 TV Kurs Rolniczy: „Parowanie ziemniaków". 8.40 „Epilog Norymberski" — film TVP. 10.55 Dla szkół: Język polski — „Jan Kochanowski". 15.20 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 TV Kurier Mazowiecki. 18.10 „Gramy o telewizor" teleturniej. 18.35 „Kraj". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Epilog Norymberski" — film TVP. 22.20 Dziennik.

**SOBOTA 2.X**

9.20 „Kobieta w szlafroku" — film fab. ang. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka — „Siły i maszyny". 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Kongo". 15.50 Program dnia. 15.55 Program I proponuje. 16.55 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Przedstawienie na arenie" — transmisja z Państw. Szkoły Cyrkowej w Julinku — popisy uczniów szkoły. 17.40 „Na szlaku". 18.05 „Spotkania z przyrodą". 18.30 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Non-Stop" — mag. rozrywkowy. 21.50 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.10 „Kobieta w szlafroku" — film fab. ang.




**Piątek, 24 września**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla uczniów. 8.40 Film fab. 10.05 Dla wsi. 10.15 W eterze „Młodość". 11.00 Nowiny. 15.00 Program dnia. 15.05 Nowiny. 15.15 Echo. 16.15 Panorama nowin. 16.30 Spotkanie z obrońcami twierdzy brzeskiej. 18.00 Program muzyczny. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. 21.00 Reportaż z Brześcia. 21.10 Film TV. 22.00 Nowiny.

**Sobota, 25 września**

9.50 Transmisja z Brześcia z uroczystości otwarcia pomnika obrońców twierdzy brzeskiej. 12.30 Szkatułka muzyczna. 12.40 Przegląd międzynarodowy. 12.55 W świecie zwierząt. 14.00 Dla studentów. 14.50 Dla uczniów. 15.30 Barykady Irlandii. 16.00 Koncert świąteczny poświęcony otwarciu pomnika obrońców twierdzy brzeskiej. 18.00 Film dokument. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. 20.45 Koncert estradowy. 21.30 Nowiny.

**Niedziela, 26 września**

8.00 Kiosk muzyczny. 8.30 Kalendarz TV. 9.00 Film TV dla dzieci. 9.30 Film animowany dla dzieci. 10.00 Film fab. 11.30 Białe i czarne. 12.00 Dla uczniów. 13.50 Turniej dociekliwych. 14.45 Światła cyrku. 15.30 Panorama międzynarodowa. 16.00 Nowiny. 16.20 W eterze „Młodość". 17.20 Klub filmowy. 18.20 Teatr miniatur. 19.00 Czas. 19.30 Film TV z uroczystości w Brześciu. 20.30 Program muzyczny. 21.30 Nowiny.



© PDF: Kamunikat.org 2020

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# СПУЛДЗЕЛЬЧЫ БАНК І СЯЛЯНЕ



*Віталіс Будроўскі.*

*Фота Цаф — Савіцкі*

Яшчэ не кожны гаспадар можа выдаць большую суму грошай на тую ці іншую пакупку. Напрыклад, пастанавіў ён купіць тэлевізар, лядоўку, жнярку, мінеральныя ўгнаенні ці правесці рамонт будынка. Адкуль узяць адразу гэтыя 2, 5 або 7 тысяч злотых? І ў гэтых выпадках як прыяцель, як добры сябар прыходзіць з дапамогаю спулдзельчы банк. Атрымлівае ў ім гаспадар пазыку, якую на выгадных умовах сплачвае пазней паасобнымі ратамі. Спулдзельчы банк служыць у асноўным вёсцы, яе жыхарам, спрыяе развіццю сельскагаспадарчай вытворчасці і павышэнню культуры ў сваім асяроддзі.

Шудзялаўскі банк сваёй дзейнасцю ахоплівае тры грамады Сакольскага павета: Шудзялава, Бабікі і Сакалду. У мінулым годзе выдаў ён пазык сялянам на суму больш 4-ох мільёнаў зл. і гэтым самым аказаў ім вялікую дапамогу.

Банк гэты фінансуе шматлікія курсы, якія арганізоўваюцца на вёсках. Згодна з планам у 1971 годзе прадбачаны курсы: віклінярскі і пераапрацоўкі фруктаў у Сухінічах, кулінарны ў Новым Трысцяным, фруктовы — у Варатыншчыне, крою і шыцця — у Вялікай Зубрыцы.

На культурна-грамадскую дзейнасць шудзялаўскі спулдзельчы банк выдае кожны год 30 тысяч злотых. Варта ў гэтым месцы ўспомніць аб тым, што прызнаў ён некаторыя сумы на выдаткі, звязаныя з арганізаваннем народнага фэстына БГКТ, які адбыўся 4-га ліпеня ў Талькоўшчыне.

У шасці школах банк вядзе ашчадныя касы. Ды наогул ён займаецца прапагандай ашчаднасці, заахвочвае сялян мець свае ўклады ў ашчадна-пазыкавай спулдзельні (СОП). Для тых, якія маюць свае ўклады ў СОП-е, банк кожны год фундуе каштоўныя ўзнагароды, якія прыдзяляюцца шляхам лясавання. У мінулым годзе Галена Міхальчык з Пачапка атрымала швейную машыну, а ў гэтым годзе Іван Сыравец з Гаркавіч — парнік, а Анна Рышкевіч з Астраўка выйграла 300 злотых узнагароды.

Штодзённа ў банк прыходзіць шмат людзей. Адны ўплачваюць, другія атрымліваюць грошы, іншыя афармляюць паперы на атрыманне пазык. 5 жанчын — працаўніц банка ветліва абслугоўваюць кліентаў. А калі спатыкаюцца з нейкімі складанымі пытаннямі, тады звяртаюцца да свайго кіраўніка Віталіса Будроўскага, які кожную справу ўмее ўладзіць так, каб селянін патраціў як найменш часу. З думкай аб ашчаднасці каштоўнага часу сялян падчас акцыі скупу банк значна падоўжыў час працы сваіх кас на пунктах скупу ў Слойцы, Шудзялаве і Бабіках.

Спулдзельчы банк у Шудзялаве як самастойная ўстанова існуе ад 1966 года. На працягу пяцігадовай дзейнасці можа ён пахваліцца значнымі дасягненнямі. У параўнанні з пачаткам дзейнасці ў 4-ы разы больш прызнае ён пазык сялянам. У 1966 годзе на рахунку ашчаднасці налічвалася 178 тысяч зл., а 31 чэрвеня 1971 года сума гэта ўзрасла да 3 мільёнаў 600 тысяч злотых. Банк сам фінансаваў са свайго чыстага даходу будову новага выгаднага, дасканала абсталяванага памяшкання, якое каштавала 440 тысяч зл. Накіраваў ён таксама на вучобу чалавека ў спецыяльны тэхнікум ў Гарваліне, які рыхтуе спецыялістаў для працы ў СОП-ах і спулдзельчых банках, і прызнаў яму стыпендыю — 480 зл. у месяц. Гэтым чалавекам з'яўляецца Барбара Малішэўская з Шудзялава.

— Калі наша стыпендыстка закончыць тэхнікум, прыме яна па мне пасаду. Мне хацелася б адыйсці ў сувязі з тым, што жыву я ў Саколцы, і вельмі нязручна так далёка даязджаць да працы, — гаворыць Віталіс Будроўскі. Ён працуе на гэтай пасадзе ад часу ўтварэння банка ў Шудзялаве. Дзякуючы яго арганізацыйным здольнасцям, праца ў гэтай установе вядзецца на высокім узроўні.

*М. Хмялеўскі*

# Сустрэча прафсаюзных дзеячоў з журналістамі

9 верасня г.г. з нагоды 20-годдзя «Беластоцкай газеты» адбылася сустрэча членаў прэзідыума Ваяводскай камісіі прафсаюзаў у Беластоку з беластоцкімі журналістамі. У цёплай, сяброўскай атмасферы кіраўнікі беластоцкіх прафсаюзаў склалі сардэчныя віншаванні юбіляру, а пры нагодзе высока ацанілі дзейнасць беластоцкай прэсы (у тым і «Нівы») і радыё ва ўзніманні прафсаюзнай тэматыкі. Журналісты былі таксама праінфармаваны аб дзейнасці прафсаюзаў у ажыццяўленні задач, якія ўзніклі пасля снежаньскіх падзей, і аб іх штодзённай працы.

Найбольш увагі ў працы прафсаюзаў было прысвечана ажыццяўленню лісту ЦК ПАРП у справе паляпшэння ўмоў працы. Шмат увагі было прысвечана таксама становішчу жанчын і апецы над дзяцьмі. Цяпер асаблівую ўвагу звяртаюць беластоцкія прафсаюзы на пытанне прадукцыйнасці працы і дысцыпліны працы. Важнае месца займае таксама справа бяспекі працы, якая павінна ўсіх непакоіць з увагі на пагоршанне сітуацыі ў гэтай галіне ў параўнанні з папярэднім годам. Беластоцкія прафсаюзы, прагнучы ўнесці свой уклад у падрыхтоўку VI з'езда партыі, уключыліся ў перадз'ездаўскую дыскусію і з'ездаўскія чыны. Рыхтуюцца таксама да свайго з'езда, які адбудзецца ў наступным годзе.

(рл)

## МЕНШ ДЗЯЦЕЙ

У Гайнаўцы ў 5 пачатковых школах распачало навуку 2324 дзяцей, гэта значыць, на 143 асобы менш, як у мінулым годзе. Школьныя парогі ўпершыню пераступіла 885 малышоў. У параўнанні з мінулым годам зменшылася іх на 90.

(мх)

## ПЕСНЯ ЦІ ДРАМГУРТОК

Неўзабаве ў «Ніве» будуць апублікаваны новыя правілы аглядаў беларускай мастацкай самадзейнасці: агляду «Беларуская песня — 1972» і агляду драмгурткоў.

У гэтым годзе ўваходзяць карысныя змены ў арганізацыі і спосабе правядзення аглядаў. Змены будуць больш карысныя для найлепшых спевакоў і найлепшых драмгурткоў.

Пасля апублікавання правілаў мы дакладней акрэслім сэнс і істоту гэтых змен.

Беларускі мастацкі аматарскі рух вырас на важны фактар у культурным жыцці ваяводства. Дзе толькі не выступалі беларускія калектывы! Замала аднак яшчэ ў нашым руху навейшых форм працы, як хоць бы рознага роду тэатраў паэзіі. Замала выкарыстоўваецца літаратурных твораў. Але ёсць ужо добрыя прыклады творчага падыходу да працы. Такія прыклады знаходзім у Гарадку, Паўлах, Рыбалах. Вырастаюць людзі — дзеячы культуры, якія ўмеюць прысвоіць для самадзейнай сцэны фальклорную песню, літаратурны твор, нялёгкую п'есу. Гэтых людзей ведаем: Ніна Мушынская, Валя Амельянюк, Валя Андрэюк. Яны ў сваіх калектывах не толькі ставяць новую рэч, але плён іх працы служыць таксама іншым гурткам. І так, адаптаваную Валяй Амельянюк для беларускай сцэны ў Паўлах п'есу Кручкоўскага «Немцы» Беларускае таварыства выдасць большым тыражом, каб даць магчымасць ставіць яе іншым гурткам.

За апрацоўку новага рэпертуару ўзялася Ніна Мушынская. Плён працы яе БГКТ таксама пастараецца выдаць.




Гэта вельмі добра, што за апрацоўку рэпертуару ўзяліся непасрэдна дзеячы культуры з вёсак, людзі, якія найлепш ведаюць працу і асяроддзе.

Справа рэпертуару ў нас не новая і застаецца вельмі важнай, мо і найважнейшай у далейшай дзейнасці мастацкага руху. Таму супольнымі сіламі тэарэтыкаў і практыкаў, паэтаў, пісьменнікаў і дзеячоў культуры неабходна яе вырашыць.

Агляды песні і драматычных гурткоў добра служаць папулярызацыі цікавых дасягненняў і абмену вопытам. Пра наватарства ў Гарадку ці Паўлах гаворыцца вельмі шырока. Калектывы, спатыкаючыся на аглядах, знаёмяцца і ўспрымаюць добрыя прыклады.

Хочам, каб новы культурны сезон прынёс многа амбітных планаў і пошукаў, каб быў годам смелых проб. Даволі спяваць кругом адны і тыя самыя песні, даволі ставіць адны і тыя самыя п'есы. Не баяцца цяжкасцей, смела сягаць па верш, паэмы, апавяданне і перарабляць яго на сцэну. Прыпомню тут словы аднаго заслужанага самадзейніка з Паўлаў — Лявона Харытонюка. Ён гаварыў: «Я не люблю іграць лёгкіх роляў, задавальненне адчуваю тады, калі вучуся і выступаю ў ролі сур'ёзнай і цяжкай».

Многа нявыкарыстанага матэрыялу маем у народных песнях нашых вёсак. Прыслухайцеся вясельным песням, хрысцінным, розным прыпеўкам; прыглядзьцеся абрадам, якія хоць скромна, але выступаюць яшчэ на вёсцы. Тут можна знайсці многа матэрыялу для гуртка.

Таксама на цэнтральным аглядзе ў Беластоку, а раней на павятовых аглядах «Беларускай песні — 1972» хочам пачуць як найбольш старых забытых песень. Няхай не памрэ песня і слова! Жыццё іх у руках нашых самадзейнікаў. Таму такая вялікая роля кожнага, хто нясе гэтае слова па свету.

Заклікаем да ўдзелу ў аглядзе на беларускую песню замужніх жанчын, якія ведаюць і спяваюць вельмі многа цікавых песень. Хочам, каб у новым аглядзе было больш такіх, як Марыя Амельянюк з Грэдалёў і Надзя Ярмоліч з Пянькоў. Як помнім, абедзве яны выклікалі захапленне ў аглядзе на беларускую песню за 71 год і напэўна ў гэтым годзе заспяваюць ізноў. А за імі адважна просім на сцэну іншых. Просім песні з Гайнаўкі, Бельска, Саколкі, з кожнай вёскі, адусюль, дзе яны жывуць!

Просім драмгурткі на вялікі сход — экзамен. Хто здасць яго найлепш?

*Вера Леўчук*

# ЧАПАЕВЕЦ



Салдаты рэвалюцыі на смерць і жыццё змагаліся з белагвардзейцамі і перамаглі. Іх беспасрэднай заслугай з'яўляецца тое, што ў Расіі пад кіраўніцтвам У. І. Леніна ўтварылася савецкая ўлада рабочых і сялян.

Адным з салдатаў Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі быў Калістрат Хіліманюк з Ласінкі Гайнаўскага павета. Ён, як тысячы іншых, папаў у глыбокую Расію як бежанец. Падчас рэвалюцыі ўступае ён у рады Чырвонай Арміі пад камандаваннем В. І. Чапаева. У пераможных цяжкіх баях пад Уфой вызначаецца смеласцю і адвагай, за што прысвойваецца яму званне малодшага лейтэнанта.

Калі ўспамінае Калістрат Хіліманюк той час, загараецца агеньчык у яго вачах і бышцам бачыць сябе і сваіх калег па зброі, маладых і баявых. Пасля хуценька выцягвае пісьмы ад піянерскага атрада імя В. І. Леніна з адной з сярэдніх школ горада Кірава, якія пішуць: «Знаем мы, што Вы былі байцом 25-ай Чапаеўскай дывізіі. Напішыце нам свае ўспаміны...»

Зараз Калістрат Хіліманюк пенсіянер і жыве ў Беластоку. Шануюць яго як заслужанага чалавека. У 1957 годзе яму быў уручаны Кавалерскі крыж Адраджэння Польшчы, а з нагоды 50-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі быў ён узнагароджаны савецкім ордэнам Чырвонай Звязды. 24 верасня Калістрату Хіліманюку споўнілася 75 год. З гэтай нагоды шлем яму прывітанні і пажаданні добрага здароўя.

(мх)



*ТАЯМНІЧЫ ДУБ*

*Шмат тайнаў крыюць рэкі Беласточчыны. Вось апошнім часам каля Беластока ў вёсцы Лянцы выцягнулі з Супраслі вялізны дуб. Гэта цікавая знаходка, зважыўшы што лясы над Супраслю былі выраблены чатырыста год таму назад. Невядома, колькі стагоддзяў ляжаў гэты дуб у вадзе, але ён у дасканалым выглядзе. Знайшоў дуб М. Саросек з Лянцаў, якога бачым на здымку: сядзіць на сваёй здабычы.*

*Фота: Р. Пруські*



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Пачатак на стар. 1

# СЕЗОН пачынаецца

прамку першы канкрэтны крок: у павятовым доме культуры ў Саколцы адкрываем музычны ачаг (агніска). Будуць у ім класы фартэпіяна, гітары і акардэона. Выкладчыкі з адпаведнай музычнай і педагагічнай падрыхтоўкай будуць даязджаць на заняткі з Беластока. Кіраўніком ачагу з'яўляецца пані Ірэна Вайцяхоўская — кіраўнік павятовага дома культуры. Наколькі музычны ачаг быў патрэбны ў Саколцы, оведчыць факт, што ўжо запісалася ў яго 60 асоб, але і гэты лік, відаць, павялічыцца, бо ахвотных ёсць значна болей.

— Саколка — горад, і ў ім лягчэй весці культурна-асветную дзейнасць. Горш, звычайна, выглядае гэтая справа ў грамадах і вёсках...

— Адносна цяжкасці працы на перыферыі — я з вамі згаджаюся, але яе вынікі ў нас на Сакольшчыне не такія ўжо і слабыя. Не гаворачы ўжо пра бібліятэкі, якія традыцыйна з'яўляюцца своеасаблівымі цэнтрамі асветы і культуры ў грамадах і паасобных вёсках, у нас ёсць вельмі актыўныя грамадскія культурныя цэнтры, напрыклад, у Янове, Карыціне, Кузніцы. Але не толькі гэтыя. У красавіку гэтага года пачала сваю працу грамадская святліца ў Шудзялаве. Ёсць там глядзельная зала і памяшканне на культурную дзейнасць. Пакуль што ў святліцы раз у тыдзень ідуць фільмы. З І жніўня пачала там працаваць светліцовай М. Шамко — выпускніца агульнаадукацыйнага ліцэя — і відаць, што шудзялаўскае асяроддзе робіць ужо першыя крокі ў ажыўленні культурнай дзейнасці.

У Піражках актыўную культурна-асветную дзейнасць вядзе гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства. У мінулым годзе там працаваў самадзейны драматычны калектыў, паспяхова выступаў на сцэне. Нядаўна я была там. Гурткоўцы і ў гэтым сезоне выступяць з п'есай і прымуць удзел у чытальніцкім конкурсе. У мясцовай бібліятэцы, хоць і малаваты, але ёсць беларускі кнігазбор. У Паўночным Востраве ў гэтым сезоне пачынае працу новы клуб «Руху», нядрэнна працуе моладзь у Крушынянах. Словам, і перыферыя на Сакольшчыне не спіць. Зрэшты, імкнемся ўсцяж яе будзіць, ужо хоць бы і тым, што самыя важныя павятовыя ўрачыстасці культурна-асветнага сезона ў нас праходзяць у грамадах, напрыклад, мінулагодні Дзень дзеяча культуры адбываўся ў Кузніцы, а ўрачыстае адкрыццё наступаючага культурна-асветнага сезона — ў Сідры.

*Размаўляў Мікалай Гайдук*

# ПЛЁН, НЯСЕМ, ПЛЁН...



*Традыцыйны бохан хлеба і дажыначны вянок нясуць Марыя Кулікоўская і Аляксей Дарашкевіч.*

5 верасня г.г. адбылася дажыначная ўрачыстасць у Бялевічах, Беластоцкага павета, якую арганізавалі мясцовыя сельгасгурткоўцы. Урачыстасць адкрыў старшыня сельскагаспадарчага гуртка Янка Храноўскі. З дакладамі да сабраўшыхся жыхароў Бялевіч і навакольных вёсак выступалі намеснік старшыні сельгасгуртка Аляксандр Кахановіч с. Антона і старшыня ГРН у Гарадку Уладзімір Кот. На дажыначнай урачыстасці прысутнічалі таксама Павел Кандрусік, сакратар грамадскага камітэта ПАРП, Тадэвуш Вонсэк — намеснік старшыні павятовай рады нарадовай, намеснік кіраўніка сельскагаспадарчага аддзела Ваяводскага камітэта ПАРП — Р. Жытавецкі і іншыя.

У справаздачы Аляксандра Кахановіча адзначалася, што бялевіцкі сельскагаспадарчы гурток мае шматлікія дасягненні. Налічвае ён 117 членаў з вёсак Бялевічы, Страшава, Меляшкі і калёніі Меляшкі. Зараз сельгасгурткоўцы карыстаюцца 9 трактарамі з камплектамі падвесных машын, 5 касілкамі, 5 абмалотачнымі агрэгатамі, камбайнам «Вістуляй» і г.д. Загаспадарваюць яны 50 гектараў зямельных угоддзяў ПФЗ. У гэтым годзе прадалі дзяржаве 36 тон жыта, 27 тон аўса і 10 тон лубіну. У наступным годзе сельгасгурткоўцы намераны сеяць жыта на 30 гектарах і авёс і лубін на 20 гектарах. Варта адзначыць, што ўсе трактары рацыянальна выкарыстоўваюцца. За першае паўгоддзе г.г. мелі яны амаль 4200 працагадзін.



*Даклад чытае намеснік старшыні сельгасгуртка — Аляксандр Кахановіч.*
*Фота Я. Цялушэцкі.*



*Удзельнікі бялевіцкіх дажынак.*

Пасля даклада намесніку старшыні ПРН Тадэвушу Вонску традыцыйны бохан хлеба і дажыначны вянок прынеслі Марыя Кулікоўская (старшыня гуртка КГВ) і Аляксей Дарашкевіч.

Пасля афіцыйнай часткі адбылося ўручэнне дыпломаў і грашовых узнагарод 5 трактарыстам: Янку Шыкуцю, Генрыку Гарадавенка, Анатолю Чэмелю, Здзіславу Лапінскаму і Юрку Тарасевічу, а таксама бухгалтару Аляксею Дарашкевічу.

У мастацкай частцы выступіў эстрадны калектыў «Лявоніха» з Беластока.

*Тэкст і фота: Янка Цялушэцкі*

## Над чым працуюць вучоныя інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР

Сярод праблем, якія распрацоўвае Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук БССР, галоўнае месца займаюць: гісторыя беларускай мовы і дыялекталогія, сучасная беларуская мова і беларуская лексікалогія і лексікаграфія. На працягу апошніх 15 год беларускія моваведы дасягнулі ў гэтых раздзелах мовазнаўчай навукі значных поспехаў. Выдадзены найбольш поўныя Руска-беларускі і Беларуска-рускі слоўнікі, «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» у двух тамах, «Гістарычная лексікалогія беларускай мовы», «Нарысы па гісторыі беларускай мовы», «Нарысы па беларускай дыялекталогіі», акадэмічная «Граматыка беларускай мовы» у 2-х тамах (Марфалогія і Сінтаксіс), манаграфічныя даследаванні асобных аўтараў: А. І. Падлужны «Фаналагічная сістэма беларускай мовы», М. Г. Булахаў «Прыметнік у беларускай мове», Ю. Ф. Мацкевіч «Марфалогія дзеяслова ў беларускай мове», М. В. Бірыла «Беларуская антрапанімія» у 2-х тамах і інш.

Асабліва значных поспехаў дасягнулі беларускія дыялектолагі, якія ў выніку даследавання моўных асаблівасцей гаворак на ўсёй тэрыторыі БССР падрыхтавалі і выдалі «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы» з томам каментарыяў і даследаванне «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» у двух тамах. Гэты комплекс прац, які атрымаў шырокае прызнанне ў славістычнай навуцы, вылучан Акадэміяй навук БССР на атрыманне Дзяржаўнай прэміі СССР. У бягучым годзе сектар дыялекталогіі, якім кіруе член-карэспандэнт АН БССР доктар філалагічных навук Ю. Ф. Мацкевіч, распачаў працу па складанню «Лексічнага атласа беларускай мовы». На працягу ўжо многіх год беларускія дыялектолагі разам з моваведамі ўсіх славянскіх краін праводзяць збор матэрыялаў і складанне пробных карт для «Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа». Некаторыя вынікі і перспектывы гэтай агульнаславянскай працы абмяркуе Міжнародны камітэт па АЛА, (Агульнаславянскі лінгвістычны атлас), які збярэцца ў Мінску ў маі будучага года.

Вялікая праца праводзіцца Інстытутам мовазнаўства па ўкладанню слоўнікаў розных тыпаў. У хуткім часе будзе завершана шматгадовая напружаная праца калектыву лексікографаў (загадчык сектара — кандыдат філалагічных навук М. П. Лобан) над укладаннем пяцітомнага тлумачальнага «Слоўніка беларускай мовы», у якім змяшчаецца найбольш поўна ўсё багацце лексікі і фразеалогіі сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Першы том гэтага слоўніка ўжо падрыхтаваны да друку. У гэтым жа годзе будзе падрыхтаваны таксама першы том «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» (словы на літары А і Б). У слоўніку будуць разгледжаны ўсе пласты беларускай лексікі — ад дыялектнай да літаратурнай. У пачатку будучага года выйдзе ў свет «Нарматыўны слоўнік беларускай мовы», які адлюструе граматычныя арфаэпічныя, стылістычныя і некаторыя іншыя рысы сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Выйшаў «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі» і падрыхтаваны такога ж тыпу слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі. Шэраг рэгіянальных слоўнікаў, якія змяшчаюць лексіку асобных раёнаў Беларусі, выйшаў у мінулым годзе. Работа па збору лексікі для іншых рэгіянальных слоўнікаў беларускай мовы працягваецца кафедрамі мовы вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі пад кіраўніцтвам Інстытута мовазнаўства і зараз.

Складаныя задачы стаяць і перад даследчыкамі гісторыі беларускай мовы (загадчык сектара — доктар філалагічных навук прафесар А. І. Жураўскі). У бягучым годзе сектар распачаў працу над «Гістарычнай марфалогіяй беларускай мовы», а неўзабаве на матэрыяле складзенай на працягу многіх год картатэкі, якая налічвае мільён лексічных адзінак з ілюстрацыямі з пісьмовых старабеларускіх помнікаў XIV — XVIII ст. ст., яго супрацоўнікі прыступяць да стварэння шматтомнага «Слоўніка старабеларускай мовы». У наступныя гады мяркуецца падрыхтоўка да друку і выданне найбольш значных беларускіх старажытных пісьмовых помнікаў XIV—XVI ст. ст.

Нядаўна пры Інстытуце створана і пачала працаваць лабараторыя эксперыментальнай фанетыкі (кіраўнік — кандыдат філалагічных навук А. І. Падлужны). Яна ўкамплектавана навейшай, у некаторай сваёй частцы ўнікальнай апаратурай, пры дапамозе якой невялікі, але здольны калектыў супрацоўнікаў лабараторыі праводзіць складаныя эксперыменты, даследуючы гукавы склад беларускай мовы.

З рознабаковымі аспектамі даследавання звязана дзейнасць сектара агульнага і славянскага мовазнаўства (загадчык сектара: доктар філалагічных навук прафесар В. У. Мартынаў), які ў складзе інстытута існуе толькі 10 год. Але ўжо за гэты кароткі тэрмін супрацоўнікі сектара падрыхтавалі і выдалі даследаванні па многіх славянскіх мовах. Значная праца праведзена сектарам па вывучэнню славяна-германскіх моўных кантактаў, у выніку якой выдадзена некалькі даследаванняў, у пры-



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




# Перыяд Вялікага княства Літоўскага

### ДРУКАРЫ І АСВЕТНІКІ — ЧАСТКА VII

Пётр Мсціславец — Іван Фёдараў — браты Мамонічы. Пасля ўпадку друкарні ў Заблудаве цэнтр беларускага кнігадрукавання пераносіцца зноў у Вільню. Пётр Мсціславец у блізкім супрацоўніцтве з братамі Мамонічамі выдаў у 1574 годзе «Напрэстольнае евангеліе». Два гады пазней Мсціславец выдаў «Псалтыр». Кніга гэта на многа гадоў сталася ўзорам рэлігійнага падручніка не толькі для Беларусі, але таксама для Расіі і Украіны. На працягу амаль двухсот гадоў многія друкарні Расіі і Украіны выдавалі «Псалтыр» Мсціслаўца. За гэты перыяд «Псалтыр» выдаваўся больш пяцідзесяці разоў.

У 1576 годзе Мсціславец выдаў з братамі Мамонічамі апошнюю кнігу «Чэсасловец». І тут усё папсавалася ў супрацоўніцтве Мсціслаўца з Мамонічамі. Чаго не падзялілі — грошай ці славы? Не ведаем. Вядома, што ў 1576 годзе Мсціславец скіраваў у суд справу супраць Мамонічаў, дамагаючыся падзелу друкарні і маёмасці. Судовая валакіта трывала доўга і, мабыць, нямала каштавала і Мсціслаўцу і Мамонічам. Канчаткова прайграў Мсціславец. Мамонічы затрымалі друкарню, Мсціславец адыйшоў з пустымі рукамі. Куды адышоў? Не ведаем. Прапаў канчаткова яго след і нічога больш не ведаем пра лёс гэтага друкара, які ў выдавецкай справе ішоў несумненна па слядах Францішка Скарыны. Бачым гэтую залежнасць і ў тэхніцы яго друку і ў некаторых элементах пасляслоўяў да яго кніг.

Тым часам друкарня Мамонічаў у Вільні існавала і дзейнічала. У суме дзейнічала яна ад 1574 да 1623 года. За гэты перыяд выдала яна велізарную, як на свае часы, колькасць кніг. Былі там і кнігі рэлігійныя, і адукацыйныя, і палемічныя, і палітычныя.

Некаторыя з даследчыкаў схільны бачыць у дзейнасці Мамонічаў толькі камерцыйны характар. Характар кніжнай прадукцыі друкарні, глыбокае заангажаванне кніг Мамонічаў у справу абароны праваслаўя сведчыць аб тым, што Мамонічы былі не толькі вытворцамі, але і эмацыянальнымі ўдзельнікамі той барацьбы, якая вялася ў тагачаснай Рэчыпаспалітай. Мамонічы трымалі несумненна руку на пульсе палітычнага жыцця краіны. Гэта ж у іх друкарні выйшаў у 1585 годзе кодэкс тагачасных правоў «Трыбунал абывацелям Вялікага княства Літоўскага». Многа разоў выдалі Мамонічы таксама славуты «Статут Вялікага княства Літоўскага», якім зоймемся ў асобным раздзеле «Беларускай літаратуры».

Друкавалі Мамонічы таксама кнігі навуковага і дыдактычнага характару. Выдавалі падручнікі па граматыцы і па логіцы і прычыняліся такім чынам да распаўсюджвання ведаў і навукі ў тагачаснай Беларусі.

Варта таксама падкрэсліць вялікае наватарства, якое выступіла ў тым факце, што Мамонічы пачалі друкаваць паэтычныя кніжкі. Аўтарамі вершаваных кніг былі Лявон Мамоніч і Андрэй Рымша. Дагэтуль, як вядома, у Беларусі ніхто вершаваных твораў у асобных кнігах не выдаваў, і таму можам гаварыць аб наватарстве Мамонічаў.

У 1591 годзе Мамонічы атрымалі каралеўскі дазвол на выдаванне кніг і на польскай мове. Між іншымі выдалі яны па-польску «Uniwersał poborcy», прысвечаны рэкруцкім наборам у войска.

Мамонічы, як мы ўжо сказалі, былі непасрэднымі ўдзельнікамі тагачасных рэлігійных і палітычных падзей у краіне. Іх погляды, а тым самым і характар друкарні, падлягалі пераменам. Эвалюцыя ідэалогіі Мамонічаў праяўлялася ў іх павольным адыходзе ад праваслаўя і далучэнні да ўніяцкага лагера.

Ужо на самым пачатку XVII ст. Мамонічы пачалі выдаваць уніяцкія кнігі. Між іншым выдалі яны «Малітвы штодзённыя» — 1601 г., «Абарона святога сінода Фларэнцкага, для праваслаўнай царквы напісаныя» — 1604 г., «Аб прывілеях, выдадзеных польскімі каралямі» — 1605 г., «Трыодзь цветная» — 1609 г.

Далучаючыся да уніі, Мамонічы парвалі поўнасцю з ідэямі ярага паборніка праваслаўя Андрэя Курбскага, які на пачатку супрацоўнічаў з імі і выдаваў у іх друкарні свае творы. Адыходзілі таксама ад цэнтраў праваслаўнай іерархіі ў Маскве, Кіеве, Канстантынопалі, Сафіі і Афінах. Такім чынам круг чытачоў Мамонічаў раптоўна звузіўся. Не магло гэта не адбіцца і на фінансавых інтарэсах Мамонічаў. Усё гэта ў канцы канцоў мусіла прывесці і прывяло друкарню Мамонічаў да ўпадку. Аднак вялікая маса кніг, выдадзеных у іх друкарні, незалежна ад характару і кірунку ідэй, ішла ў асяроддзе тагачаснага беларускага, і не толькі зрэшты беларускага, грамадства і адыграла велізарную асветніцкую ролю.

Варта яшчэ на заканчэнне вярнуцца да постаці Івана Фёдарава, які пасля закрыцця друкарні ў Заблудаве накіраваўся ў Львоў і там у 1574 годзе надрукаваў «Апостала», даючы такім чынам пачатак украінскаму кнігадрукаванню. Да «Апостала» далучыў ён дадатак «Повесть, откуду начася і совершася друкарне сие». У гэтай аповесці апісаў ён разгром сваёй друкарні ў Маскве, а таксама сваю працу ў Заблудаве. Між іншым гаворыць Фёдараў, што Хадкевіч хацеў падарыць яму адну вёску, але ён адмовіўся ад такога падарунка, бо лічыў сваім абавязкам развіваць друкарства. Фёдараў выдаў яшчэ некалькі кніг. Пасляслоўі да гэтых кніг сведчаць, што Фёдараў быў чалавекам шырокіх разумовых гарызонтаў. Ведаў вартасць кнігі, адукацыі і шырокага творчага парыву.

Канчаючы, трэба сцвердзіць, што і Пётр Мсціславец, і Іван Фёдараў, і браты Мамонічы ішлі па слядах вялікага Скарыны. У іх дзейнасці ідэі Скарыны знаходзілі развіццё і росквіт.

# КОНКУРС НА ГАСПАДАРНАСЦЬ

Рэдакцыя тыднёвіка «Рада Нарадова» супольна з Міністэрствам камунальнай гаспадаркі, Камітэтам дробнай вытворчасці, Галоўным камітэтам фізічнай культуры, ЗСС «Сполэм» і ЦРС «Сялянская самапомач» аб'явілі конкурс гаспадарнасці гарадоў, у якіх пражывае менш як 15 тысяч чалавек. Горад, які выкажацца ўсебаковымі дасягненнямі, атрымае званне чэмпіёна гаспадарнасці (mistrz gospodarności) і 5 млн. зл. Тыя гарады, якія будуць закваліфікаваны па гаспадарнасці на другім месцы (vice-mistrz gospodarności), атрымаюць па 3 млн. зл. Будуць і іншыя каштоўныя ўзнагароды.

Да гэтага конкурсу прыступіла Гайнаўка. Камітэт конкурсу ў Гайнаўцы, які ўзначальваецца старшынёй гарадской рады народовай Кастусём Ляшчынскім, выдаў спецыяльную адозву да жыхароў Гайнаўкі і ўсіх прадпрыемстваў, каб прымалі прадукцыйныя абавязацельствы і грамадскія чыны, каб дбалі аб гігіене і эстэтыцы горада, каб выступалі з ініцыятывай адносна паляпшэння гандлю і паслуг, камунальных абсталяванняў і г.д. Гэтая адозва, надрукаваная на вялікім каляровым аркушным фармаце паперы, вісіць у многіх установах і на прадпрыемствах. Кастусь Ляшчынскі перакананы, што жыхары Гайнаўкі праявяць многа ахвярнасці ў працы і атрымаюць прынамсі 3-мільённую ўзнагароду. За такую суму варта змагацца. (мх)

ватнасці манаграфія В. У. Мартынава Славяна-германскі лексічны ўзаемаўплыў у старажытны час».

Цяпер у сувязі з падрыхтоўкай «Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы» сектар праводзіць даследаванні беларуска-славянскіх і беларуска-іншаславянскіх моўных кантактаў і моўнай інтэрферэнцыі (беларуска-рускіх, беларуска-польскіх, беларуска-украінскіх, беларуска-літоўскіх).

Распачатыя інстытутам 5 гадоў назад даследаванні польскіх гаворак на тэрыторыі СССР (кіраўнік — навуковы супрацоўнік В. Л. Вярэніч) будуць працягвацца і далей. У выкананні гэтай комплекснай тэмы, акрамя Інстытута мовазнаўства, які з'яўляецца галоўным, прымаюць удзел супрацоўнікі Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР, выкладчыкі кафедр мовы вышэйшых навучальных устаноў Вільнюса, Рыгі, Львова і іншых навуковых цэнтраў Савецкага Саюза. У 1972 годзе выйдзе ў свет манаграфічнае даследаванне аб польскіх гаворках у СССР, падрыхтаванае гэтым калектывам.

Найбольш дыскусійныя пытанні распрацоўваемай інстытутам праблематыкі знойдуць месца ў штогодніку «Беларуская лінгвістыка» — орган Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР, які пачынае выходзіць двума выпускамі з будучага года.

АНАТОЛЬ АКСАМІТАЎ

# НА МАГІЛЕ БАЦЬКІ

На сваіх штыках няслі яны нам свабоду, вызвалялі нас ад страшнай нямецкай акупацыі. І лажылі галовы. Аддавалі тое, што ёсць найдаражэйшае ў чалавека — сваё жыццё. Іван Іванавіч Барысюк, былы старшыня калгаса ў вёсцы Манастырок, што ў Вінніцкім раёне на Украіне, дабравольцам уступае ў Чырвоную армію, каб граміць ворага. Пачаткова як салдат, а пасля як афіцэр змагаецца пад Сталінградам. Пад Курскам выдзяляецца ён нязвыклай смеласцю і адвагаю, і за гэта ўзнагароджваюць яго Залатой Звяздой Героя Савецкага Саюза. Баявы шлях Івана Барысюка заканчваецца ў Гайнаўскім павеце. Вызваляючы Гайнаўку, 17 ліпеня 1944 года ён гіне ад варожай нямецкай кулі.

Скончылася вайна. Маці-старушка не дачакалася свайго сыночка. Лягчэй ёй было б, каб ведала, дзе магіла Ванюшы. Асабліва дзеці, дзве дачкі і сын хацелі гэтае ведаць. Увесь час шукалі. І ўрэшце пры дапамозе польскага консульства ў Кіеве даведаліся, што магіла бацькі знаходзіцца ў Гайнаўцы. У другой палове жніўня прыязджаюць у Гайнаўку замужнія дочкі са сваімі мужамі Ліда і Васіль Хаменка, Антаніна і Пётр Паўлічэнка, а таксама сын — Пётр Барысюк. Дапыталіся, дзе магілы савецкіх салдат. Тут адразу на вакзале спаткаліся з вялікай сардэчнасцю гайнаўчан. Даведаліся аб іх прыездзе і прадстаўнікі ўлад і заапекаваліся імі. Прыняў іх першы сакратар павятовага камітэта ПАРП Аляксей Лазоўскі. Адбылася сустрэча і ў старшыні павятовай рады нарадовай Міколы Самоціка.



*Злева направа: два зяці і сын Івана Барысюка, прадстаўнікі Войска польскага і ўлад Гайнаўкі і дочкі героя.*

Улады Гайнаўкі арганізавалі ўрачыстае складанне вянкоў з удзелам спецыяльна прыехаўшай ганаровай вайсковай роты салдат. Падчас гэтай урачыстасці сакратар КП ПАРП Аляксей Лазоўскі ўручыў дачцы Івана Барысюка ўрну з зямлёй, узятай з магілы героя.

Госці пераканаліся, што жыхары Гайнаўкі з вялікім пятызмам шануюць магілы савецкіх салдат, што могільнік гэты вельмі прыгожы, дагледжаны. Родзічы Івана Барысюка былі ў Гайнаўцы 10 дзён, і ўвесь час удзялялі ім многа ўвагі людзі з паасобных прадпрыемстваў і ўстаноў.

На развітальнай сустрэчы, якая адбылася з удзелам старшыні гарадской рады нарадовай К. Ляшчынскага і прэзаса ВСС В. Бэльтэра, госцям — сям'і героя — уручаны былі сімвалічныя падарункі.

*М. Хмялеўскі*
*Фота — Панецкі*

# БУДУЮЦЦА НОВЫЯ ДАРОГІ

Кожны з нас ведае, што лепш і прыемней ехаць па роўнай і добрай дарозе. Дарогі без выбояў да таго яшчэ больш бяспечныя. Каб нашыя дарогі былі прыдатнымі да карыстання, найбольш клапоцяцца аб гэтым такія прадпрыемствы, як ГРН, павятовыя праўленні лакальных дарог і перш за ўсё самі жыхары вёсак і мястэчак. У Беластоцкім павеце ў мінулым годзе пракладзена каля 5 кіламетраў брукаваных і каля 18 кіламетраў жвіровых дарог. Агульная вартасць усіх выкананых работ склала суму 12 мільёнаў злотых.

У працы грамадскім чынам найбольш праявілі сябе жыхары такіх грамад, як Гарадок, Чорная Вёска Касцельная, Казінцы і Тыкоцін. У гэтым годзе за першае паўгоддзе адрамантаваны брукаваныя дарогі на адрэзках Юхновец Дольны — Юхновец Касцельны — станцыя Лявіцкія, Тыкоцін — Златорыя, Фасты — Новае Александрова, а таксама ў вёсках Шымкі, Дамброўка, Каракулы, Баршчэва і г.д. Праведзена таксама мадэрнізацыя дарогі на адрэзку Пратасы — Рафалоўка і Беле — Злотнікі. З грамадскіх фондаў выкарыстаны 2100 тысяч злотых і пабудаваны брукаваныя дарогі ў вёсках Мялешкі, Вейкі, Жэндзяны і Леснікі, а таксама навезены жвір і жужаль на дарогі на адрэзках Капляны — Бранчаны, Юхновец Дольны — Лявіцкія, Рыбакі — Пагажалкі, Казінцы — Абрубнікі, Дубляны — Ялоўка і г.д. Пры дарогах пасаджана 2150 дрэўцаў.

Грамадскім чынам пабудаваны дарогі на адрэзках Геранімова — Патока і ў вёсках Дайліды Горныя, Леснікі і Жэндзяны, насыпаны жвірам дарогі агульнай даўжынёй 11 кіламетраў на адрэзках Трычоўка — Рэпнікі, Заблудаў — Крыніцкія, Міхалова — Падазяраны, Боўтрыкі — Гарбары — Рыбакі, Патока — Малынка, Геранімова — Патока, Бялявічы — Вейкі, Каралёвае Стойла — Гураны, Ленцы — Новае Александрова, Пагажалкі — Рыбакі, Чорная Вёска Касцельная — Ратовец, Варашылы — Вулька Прадмесце, Каракулы — Саўляны, Бранішэва — Леснік — Радулі і Саннікі — Ліпнікі. Пасаджана 820 дрэўцаў паабапал дарог Саннікі — Ліпнікі і Слівіна — Канавалы. Вартасць работ пры пабудове дарог грамадскім чынам акрэслена на суму 123 тысячы злотых.

У Гайнаўскім павеце ў апошні перыяд грамадскім чынам пабудавана 13 кіламетраў дарог агульнай вартасцю 7 мільёнаў злотых, у тым ліку на адрэзках Арэшкава — Старына, Трасцянка — Белкі, Тарнопаль — Семяноўка, а таксама дарогі ў Чаромусе і Тафілаўцах. Найлепш працавалі грамадскім чынам у грамадах Дубічы Царкоўныя, Арэшкава і Семяноўка.

У Сямяціцкім павеце на працягу апошняй пяцігодкі пабудавана агулам 101,5 кіламетраў дарог і адрамантавана больш 100 кіламетраў дарог. Пры дарогах пасаджана 40 тысяч дрэўцаў. Дарогі пабудаваны на адрэзках Мельнік — Няміраў, Чартаеў — Гродзіск, Дзядкавічы — Гаронава, Мельнік — Вайкоў, Гродзіск — Пабікры, Мілейчыцы — Рагачы і г.д. Многа дарог будавалася дзякуючы ініцыятыве і працы грамадскім чынам. У сувязі з пракладкай добрых даязных дарог адкрыты новыя аўтобусныя лініі да Агароднікаў, Нямірава, Сыпнікаў і іншых мясцовасцей. Найбольш актыўна ўдзельнічалі ў працы грамадскім чынам жыхары з грамад Мілейчыцы, Гродзіск і Драгічын.

У мінулым годзе грамадскім чынам пабудавана і адрамантавана больш 15 кіламетраў дарог і пасаджана 4 тысячы дрэўцаў. Вартасць выкананых работ склала суму 10 мільёнаў злотых. У гэтым годзе ў першым паўгоддзі пабудавана і адрамантавана 7 кіламетраў дарог. Грамадскі ўклад у пабудову дарог склаў суму 1,8 мільёна злотых. Найлепш працуюць жыхары з грамадаў Залессе і Бомбля.

*Янка Цялушэцкі*



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# СЯРОД ПІГМЕЯЎ



Сто пяцьдзесят кіламетраў ад сталіцы Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі Бангі мы праехалі хутка. Затым асфальт скончыўся і пачалася глiністая прасёлачная дарога.

Праваднік зрабіў знак, я спыніў машыну.

На паляне, куды мы выйшлі, слаба дыміліся кастры, іх пакінулі непатушанымі для захавання агню. Людзей не было бачна. Наш праважаты пракрычаў, як варона, і, быццам у казачнай тэатральнай п'есе, паляна раптам ажыла — з'явілася адразу шмат нізкарослых голых людзей. Я прыгледзеўся і ўбачыў буданы. Яны стаялі на ўзлессі, ля самых стваloў.

Праваднік выступіў з прамовай. Ён сказаў, што я журналіст, цікаўлюся жыццём афрыканскіх плямёнаў і што мы прывезлі падарункі — соль і цыгарэты. Параіўшыся, пігмеі праз нашага гіда-перакладчыка аб'явілі, што згодны прыняць і госця і падарункі. «За соллю да нашай машыны тут жа адправіліся некалькі чалавек.

Неўзабаве сцямнела. Рыжае полымя кастра рассякала цемру. Вакол агню сабралася ўсё племя, чалавек пяцьдзесят. Незалежна ад узросту і полу пігмеі носяць вузкія набедраныя павязкі. Ніякае іншае адзенне не прызначаецца. Аднолькава дагала стрыгуцца і мужчыны, і жанчыны. Сярэдні рост пігмея мужчыны — прыкладна 145 сантыметраў, жанчыны — яшчэ меншы.

Пігмеі з'яўляюцца асаблівай расай, якая не мае нічога агульнага з негрыцянскай. Яны вызначаюцца тонкімі рысамі твару, светла-карычневай, залацістай скурай, маюць сваю мову, якая зусім не падобна на ўсе вядомыя афрыканскія дыялекты. Спецыфічны і сам уклад жыцця гэтага народа. У пігмейскіх плямёнаў няма правадыроў — важныя пытанні вырашаюць сходкай, усёй грамадой. Няма ні шаманаў, ні суддзяў. Пігмеі жывуць у лесе асобна ад іншых плямёнаў, замкнутай абшчынай роўных і незалежных людзей, пазбягаючы сустрэч з цывілізацыяй, са знешнім светам.

Галоўны занятак пігмеяў і сродак існавання — паляванне. А аднаму чалавеку ў джунглях паляваць немагчыма. Дух калектывізму ў гэтага народа ў крыві, ён стаў прыроджаным інстынктам самазахавання. Выгнаны за дрэнны ўчынак ці злачынства чалавек асуджан на гібель: іншае племя яго ніколі не прыме, а займацца паляваннем аднаму не пад сілу.

**Асаблівасць пігмейскага грамадства ў**



тым, што яно нічога не вырабляе, не вырошчвае, не займаецца жывёлагадоўляй. Пігмеі жывуць выключна тым, што ім дае прырода джунглі. Жанчыны збіраюць прыдатныя да яды дзікія плады, травы, смаўжоў, тэрмітаў і іншыя дары лесу. Мужчыны займаюцца паляваннем. На газелей ставяць сеткі, зробленыя з валакністых раслін. На больш буйную жывёлу палююць з самаробнымі лукамі і арбалетамі. Уткнуўшы тонкую, як пруток, атручаную стралу ў спіну дзікага буйвала ці антылопы, пігмеі цярпліва ідуць за жывёлінай, ідуць іншы раз сто кіламетраў, чакаючы, калі яд зробіць сваю справу, паралізуе дзейнасць сэрца. Выкарыстоўваюцца і паляўнічыя хітрасці. Я бачыў у пігмеяў маскіровачны касцюм са страўсавага пер'я. Апрануўшыся ў яго, паляўнічы падыходзіць блізка да статку жывёлы і паражае адну, а то і дзве атручаным кап'ём.

Пігмеі палююць нават на сланоў. Вэнджанае мяса слана доўга захоўваецца, лічыцца далікатэсам. Мне ж яно здалося вельмі цвёрдым... Не маючы вогнестрэльнай зброі, гэтыя людзі перамагаюць гігантаў джунгляў хітрым манеўрам. У сланоў добры нюх, яны здалёк адчуваюць набліжэнне чалавека. Пігмеі робяць спецыяльную мазь, якая адбівае чалавечы пах. Такім саставам змазваюць самага спрытнага паляўнічага. Нячутна падкраўшыся да статку сланоў, смяльчак падлязае пад бруха аднаго з іх і ўтыкае ў спляценне крываносных сасудаў атручаную стралу. Слон можа нават і не адчуць уколу. Цяпер застаецца сачыць за статкам, ад якога паступова пачне адставаць ранены слон, і чакаць, калі ён зваліцца. З тушы тут жа выпускаюць кроў, разабранае вяленае мяса ядуць месяцамі...

Раніцай калектыўнае снеданне было вельмі сціплае: крышачку звараных ва ўласным соку тэрмітаў. Племю яўна цяжка жылося, і ўваход у новыя краі быў жыццёва неабходны.

Развітваючыся з пігмеямі, я спытаў, куды яны ідуць. «Туды», — адказвалі маленькія жыхары джунгляў, паказваючы ў няпэўным напрамку... Магчыма, і цяпер яны ўсё яшчэ ідуць, скрозь зараснікі і балоты, перамагаючы драпежных звяроў, ведучы паляванне на газелей, застаючыся вернымі свайму замкнутаму першабытнаму ладу жыцця.

*В. Кацін*

---

КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

## ПАПРЫКА

Атрымалі мы ліст ад пані Людмілы Ярашэвіч з Кляшчэляў. «Дарагая гаспадыня, — піша яна. — Я заўсёды чытаю твае парады, як варыць, каб было добра, і карыстаю з іх. Таму сама вырашыла да цябе напісаць. У нас у хаце ўсе любяць папрыку (чырвоны перац) і таму я кожны год сею яго ў агародзе. У гэтым годзе перцу маю многа, але не ведаю, што трэба зрабіць, каб ён быў добры і смачны. Я раблю яго з смятанай і памідорамі, а на зіму варыла з воцатам і алеем і складвала ў слоікі. Прашу, цябе, дарагая Гаспадыня, парай мне, як падрыхтаваць чырвоны перац на зіму, ды як яго цяпер есці. Бо ўвесь час таксама, дык абрыдне».

Пані Людміла! Вельмі слушна вы робіце, што сееце шмат папрыкі. У нас ужо нікога не трэба агітаваць, каб яе елі. У гэтым годзе толькі з Балгарыі наш рынак атрымаў яе больш 4 тысяч тон. Усе ведаюць, што ў папрыцы ёсць велізарная колькасць вітаміна С (у 5—6 разоў больш, чым у лімонах). Акрамя таго, у папрыцы вітамін С надзвычай трывалы і гіне мінімальна ў часе варкі, а ў сырой папрыцы вітамін С утрымліваецца амаль 3 месяцы. Папрыка, кажуць, паляпшае страўнасць, спрыяе нармальнаму функцыяніраванню арганізма, з'яўляецца крыніцай здароўя, маладосці і доўгавечнасці. Усё гэта, аднак, пры ўмове, што патравы будуць падрыхтаваны адпаведна. У Балгарыі, напрыклад, для салатаў найчасцей ужываюць печаную папрыку. А можа і вам, пані Людміла, спрабаваць зрабіць які-небудзь салат на падставе печанай папрыкі? З сырой жа вы ўжо рабілі (толькі з папрыкі салаты звычайна робяць з алеем, напрыклад, папрыка, памідоры, цыбуля і алей). Балгары ж памытыя і абсушаныя струкі папрыкі кладуць у духоўку і пякуць на вялікім агні. Калі папрыка ўжо амаль прыгарыць, кладуць яе на хвіліну ў папяровы мяшочак, альбо ў каструльку і шчыльна прыкрываюць (каб яна «запарылася»). Праз нейкі час папрыку вымаюць, абіраюць скурку і вымаюць з сярэдзіны зерне. З такой папрыкі робяць розныя салаты. Напрыклад:

1) Салат з адной папрыкі. Печаную і ачышчаную папрыку палажыць на талерку, пасаліць, спырснуць лімонным сокам і алеем.

2) Печаную папрыку палажыць на талерку, дадаць скрылёчкі ababранага са скуркі памідора, пасыпаць дробна нарэзанай цыбуляй і зялёнай пятрушкай, спырснуць лімонным сокам і алеем. Падаваць адразу ж, як толькі вы яе падрыхтуеце.

3) Да тае салаткі, якую мы змясцілі пад № 2, дадаць яшчэ нарэзаных крутых яечак.

4) Печаную папрыку, ашпараныя кіпятком і абабраныя са скуркі памідоры, абабраны свежы агурок, цыбулю, нарэзаць, а зелень пятрушкі дробна пасячы. Усё вымяшаць, пасаліць, дадаць крыху алею. Да гэтага абавязкова трэба дадаць яшчэ змеленай папрыкі. Але яшчэ не ўсё, не забудзьцеся дадаць якога-небудзь вострага сорту жоўтага сыра, сцертага на тарцы (можа быць эменталер, гоўда і інш.). Можна спырснуць салат лімонным сокам. Такі ж салат можна зрабіць з сырой папрыкі.

Пані Людміла, вельмі добра, што вы да нас напісалі, толькі чаму так позна? Нам жа вельмі б хацелася, каб вы выкарысталі нашы рэцэпты яшчэ ў гэтым годзе. У наступным нумары мы раскажам вам аб некаторых вараных патравах з папрыкі і аб тым, як варта зрабіць яе на зіму.

*Гаспадыня*

---

25 ГОД ТАМУ НАЗАД

# Нюрнберг

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары).*

Нюрнбергскі трыбунал разграміў усе асноўныя лініі абароны галоўных нямецкіх ваенных злачынцаў. Ён паказаў асабістую адказнасць кожнага з іх і з абсалютнай юрыдычнай дакладнасцю адвёў у бок усе спасылкі на «загад зверху». Далей, трыбунал паказаў узаемазалежнасць усіх звенняў нацысцкага апарату і раскрыў механізм падрыхтоўкі агрэсіі. Урэшце, трыбунал выкрыў тайныя пружыны агрэсіі, паказаў, да чаго прыводзяць расізм і антыкамунізм, выявіў ракавую ролю імперыялістычных манаполій. Пасля Нюрнберга ўжо нельга сцвярджаць, быццам агрэсія — выпадковасць, што яна нараджаецца невядома як.

Для гісторыкаў і палітыкаў Нюрнберг — вялікі бясцэнны архіў дакументаў, сведчанняў. Афіцыйнае выданне матэрыялаў працэсу склала 42 тамы. Да гэтага можна дадаць шматтамовае выданне пратаколаў працэсаў, якія амерыканскія ўлады праводзілі пазней (працэсы Крупа, Фліка, ІГ Фарбеніндустры, нацысцкіх дыпламатаў, СС і гэтак далей). У той жа рад уступаюць дакументы працэсаў, праведзеных у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы (супраць Оберлендэра, Глобке), дакументацыя шматлікіх працэсаў, якія праходзілі ў Савецкім Саюзе, Польшчы, Францыі, Югаславіі і іншых краінах. Усе гэтыя матэрыялы ствараюць адзіную мэту, якой Нюрнбергскі трыбунал паклаў пачатак.

Цяпер ужо мала каго цікавіць лёс нюрнбергскіх падсудных. Дзесяць з іх былі павешаны ў Нюрнбергу, Герынгу ўдалося пакончыць самагубствам да смяротнага пакарання. У жывых засталося нямнога. Але непераходнае значэнне Нюрнбергскага трыбуналу заключаецца ў тым, што гэта быў не толькі суд над асобнымі злачынцамі. Гэта быў суд над нацызмам наогул, суд над любой агрэсіяй. Таму яго рашэнні будуць захоўваць сваё значэнне яшчэ доўга пасля таго, як чалавецтва забудзе аб падсудных.

Ці будуць у ФРГ як-небудзь азначаць гадавіну Нюрнберга? Аб Нюрнбергу ў Заходняй Германіі ўспамінаюць толькі для таго, каб паспрабаваць скампраметаваць яго сэнс і значэнне. Хоць прынцыпы Нюрнбергскага трыбуналу былі ўрачыста пацверджаны ААН, заканадаўства ФРГ робіць выгляд, быццам нічога аб іх не ведае. Валакіта ў справе праследвання ваенных злачынцаў у ФРГ звязана з тым, што іх судзяць па звычайным крымінальным заканадаўству, распрацаваным у 1871 годзе. Калі б і нюрнбергскія суддзі дзейнічалі такім чынам, дык Герынг да сённяшняга дня яшчэ б сядзеў на лаве падсудных і гаварыў бясконцыя прамовы...



*Амерыканскі сяржант Джон Вуд з Тэхасу рыхтуе пятлю для прыгавораных.*

Можна зразумець, чаму ў ФРГ так не любяць нюрнбергскі прыгавор. Ён б'е не толькі па мёртвых нацыстах, але і па ўцалелых і па іх наследніках. Справа тут не толькі ў гэтым, што шматлікія значныя чыны «трэцяга рэйху» сёння займаюць яшчэ больш важныя пасты ў заходнегерманскім дзяржаўным апараце. Адбываецца натуральны працэс змены пакаленняў, і з кожным годам гэтыя паны адыходзяць або на пенсію, або ў нябыццё. Мы ведаем таксама людзей, якія шчыра парвалі са сваім мінулым. Але ў той жа


© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ТРЫБУНА чытачоў

Актывісткі БГКТ з Гайнаўшчыны: Лідзія Сац з Горнага і Галена Мялешка з Пуцiскаў.

Фота: Я. Цялушэцкі.

## ОРЛЯ БУДУЕЦЦА

У апошніх гадах Орля ў хуткім тэмпе разбудоўваецца. Будуецца найбольш жыллёвых дамоў. Матэрыял, патрэбны да будоўлі, робяць мясцовая цагельня і бетанярня. У новай пяцігодцы (1971—75) у Орлі будзе будавацца новы керамічны завод, такі, які існуе ў Ляўкове, што на Гайнаўшчыне.

*Ваня Кірызюк*

## УВАГА, ЧЫТАЧЫ!

Ужо ў наступным нумары пачнем друкаваць дакументальны нарыс пра савецкага разведчыка п.з. «Пісталет Гудэрыяна».



## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка!

Мне толькі 21 год, і я не маю яшчэ намеру жаніцца. Тры гады я сябраваў з Марысяй, якая пражывае ў 10 кіламетрах ад нашай вёскі. Яна на два гады малодшая ад мяне. Праўда, калісьці яна мне вельмі падабалася, здавалася мне, што я яе кахаю. Месяц таму назад я сустрэў іншую, якая мне так спадабалася, што цяжка мне дачакацца нядзелі, пакуль паеду і яе ўбачу. Мне і самому прыкра, што я Марысю пакінуў, але нічога я ёй невінаваты як кажуць, проста перастаў ездзіць без ніякага тлумачэння. Амаль штодзень атрымліваю ад Марысі лісты з запытаннем, што здарылася. У апошнім з іх Марыся піша, што прыедзе да мяне, думае, што мо я хворы, або што іншага дрэннага здарылася са мною.

Я, Сэрцайка, не хацеў бы бачыць Марысі, бо неяк не выпадае сказаць праўду ў вочы, а ілгаць таксама не хачу. Парай, што мне зрабіць, каб Марыся не прыехала і каб не тлумачыцца перад ёю.

Чакаю хуткай парады

*Мікалай з Г.*

Мікалай! Вось іменна ты дрэнна паступіў (і надалей паступаеш), што адразу не сказаў праўду Марысі. Перастаў ты кахаць Марысю, бо сустрэў іншую, якая табе больш спадабалася. Ну што ж, як кажуць, сэрцу не раскажаш, гэта яно бярэ нас у палон. Аднак віна твая ў тым, што ты цэлы гэты месяц не адазваўся на Марысіны лісты, не сказаў праўды. Калі не хочаш сустрэцца з Марысяй, дык напішы ёй і выясні ў лісце. Яна ж аб табе непакоіцца, а ты маўчыш, саромішся праўды.

*Сэрцайка*



Едуць фурманкі з сёлетнім збожжам на пункт скупу ў Міхалове. Фота: Я. Цялушэцкі

## ВЫСОКІ РАНГ ПАРТЫЙНАЙ АДУКАЦЫІ

На Гайнаўшчыне ў апошнія два гады сістэматычна развіваецца партыйная адукацыя. Удзельнічае ў ёй звыш 4600 асоб, у гэтым 3290 членаў і кандыдатаў партыі, 232 члены ЗСЛ, 304 члены ЗМВ, 69 членаў ЗМС і 777 беспартыйных.Назіраецца аднак недастатковая яшчэ эфектыўнасць адукацыі. Ёсць партыйныя арганізацыі, якія ацэньваюць адукацыю толькі паводле колькасці сходаў і прысутнасці ўдзельнікаў.

Адначасова ў павеце ёсць шмат прыкладаў правільна арганізаванай адукацыі, якая дае добрыя палітычныя вынікі (Чарэмха, Белавежа, Кленікі, ЗСДД, ГЗПД, Прэзідыум гарадской рады). Аб гэтым была гутарка на пленуме ПК ПАРП, прысвечаным партыйнай адукацыі.

Задумваючыся над далейшым удасканальваннем мадэлю адукацыі, амаль усе дыскутанты падкрэслівалі вялікае значэнне правільнай падборкі кадраў, якія вядуць адукацыю, неабходнасці сістэматычнага павышэння іх кваліфікацый. Яны ж вырашаюць аб узроўні і эфектыўнасці партыйнай адукацыі.

Дыскусія на пленуме паказала, што трэба з партыйнай адукацыі зрабіць яшчэ больш эфектыўны інструмент ідэйна-палітычнага выхавання, звязаць яе яшчэ больш чым дагэтуль з заданнямі, якія вызначае партыя.

*К. Ляшчынскі*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Я купіў пляц, на якім пабудаваў дом. Калі дом быў ужо пабудаваны, мой сусед выступіў у суд наконт размежавання нашых участкаў. У выніку размежавання выявілася, што дом мой знаходзіцца часткова на ўчастку суседа, займаючы 1,5 метры яго зямлі. Сусед патрабуе, каб я альбо перасунуў дом на свой участак, або заплаціў яму за занятую пад дом частку зямлі, а за гэтыя 1,5 метра хоча больш, чымсьці заплаціў за ўвесь свой участак. Ці гэтыя патрабаванні згодны з правам?

АДКАЗ: Калі пры пабудове будынка ненарочна пяройдзена граніца суседняга ўчастка, уласнік гэтага ўчастка не можа патрабаваць, каб той, хто будуецца, перасунуў будынак на свой участак. Ён не можа гэтага патрабаваць нават тады, калі граніца пяройдзена нарочна, а ўласнік без абгрунтаванага маруджання не супраціўляўся пабудове будынка.

Уласнік можа патрабаваць, каб той, хто пабудаваў гэты будынак, выкупіў занятую будынкам частку зямлі, або нават цэлага ўчастка, калі страціў ён з-за таго гаспадарчую вартасць. Аднак ён не можа патрабаваць заплаты паводле сваёй волі. Калі б справа апынулася ў судзе, суд дасць эксперта, які ацэніць зямлю паводле яе рыначнай вартасці.

## Беларускія кнігі

У Гайнаўцы ў Доме кнігі вул. 1-га Мая ёсць у продажы наступныя кнігі на беларускай мове:

Чорны Кузьма, *Насцечка*, Мінск, 1971, цана 1 зл.

Гэта асобнае выданне вядомага апавядання класіка беларускай літаратуры.

Кніжачку рэкамендуем усім чытачам. Яна павінна быць як абавязковая і ў школьных бібліятэках.

Марозаў В., *Як чуеш мяне «Буравеснік»?*, Мінск, 1970, стар. 24, цана 40 гр.

Герой апавядання — Ваня Сакольчык. Ён быў падлеткам, калі нямецкія фашысты акупавалі БССР. Але і ён прымаў удзел у барацьбе супраць ворагаў. Цяпер Сакольчык — Герой Сацыялістычнай Працы, а ў кніжачцы прачытаеце пра яго гераічнае юнацтва.

Для дзяцей і моладзі гэта надта ж займальная кніжачка. (мг)

## Ці ведаеце, што...

...на Беласточчыне ў бягучай пяцігодцы пастаноўлена ліквідаваць 101 школу, перш за ўсё з класамі I—IV і з малой колькасцю вучняў. Найбольш школ будзе ліквідавана ў Бельскім павеце (22), Беластоцкім (17) і Сямяціцкім (12).

## Кіно

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Prawdziwy koniec wielkiej wojny" (polski), 28—29.IX „Skąpani w ogniu" (polski), 30.IX—1.X, „Południk zero" (polski), 2.—3.X.

**Дубічы Царкоўныя**

„Alba Regia" (węgierski), „Dziki pies Dingo" (radz.), 29.IX—3.X.

**Арэшкава**

„Ucieczka w kajdanach" (USA), „Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 2—3.X.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Ostatni termin" (USA), „Zabawy w muzeum" (węgierski), 29.IX—3.X

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Pogoń za Adamem" (polski), 28—29.IX. „Kochać jak Romeo" (jugosł.), 30.IX—3.X. „Dr Crippen przed sądem" (ang.), 2 X—3.X.

**Янаў**

„Kardiogram" (polski), 29.IX—3.X.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Brzoza" (jugosł.), 28—29.IX. „Na tropach szpiega" (radz.), 30.IX — 1.X. „Po kruchym lodzie" (polski), 2—3.X.

**Мельнік**

„Człowiek z karabinem" (radz.), 28—29.IX. „Ambasadorowie nie mordują" (NRD), 30.IX—1.X. „Pogoń za Adamem" (polski), 2—3.X.



**Ці Вы ўжо з'яўляецеся членамі БГКТ?**

час мы бачым у ФРГ маладых палітыкаў, якія ніколі не былі членамі нацысцкай партыі, аднак у сваім антыкамунізме нічым не ўступаюць Розенбергу і Гебельсу. Мы ведаем фельдмаршалаў, якія знайшлі ў сябе сілы адрачыся ад Гітлера, але мы ведаем і маладых генералаў бундэсверы, якія імкнуцца да атамнай бомбы. Ніхто не носіць у ФРГ карычневую ўніформу, але аратары на сходах рэваншысцкіх зямлячастваў не менш небяспечны, чым штурмавікі 30-х гадоў.

У Нюрнбергу судзілі не толькі германскіх агрэсараў, але агрэсію і злачынныя войны наогул. Таму сёння, дваццаць пяць год пасля нюрнбергскага прыгавору, усе сумленныя людзі, якія з гневам сочаць за амерыканскай агрэсіяй у В'етнаме, усё часцей успамінаюць аб Нюрнбергу. Вядомы заходнегерманскі пісьменнік Крыстыян Гайслер правёў дакладнае параўнанне нюрнбергскага працэсу са ўсім тым, што дзеецца ў В'етнаме, і знайшоў, што гэты прыгавор поўнасцю прыдатны да злачынстваў амерыканцаў на Індакітайскай паўвыспе.

Нюрнберг непрыемны і страшны для агрэсараў: ён прыпамінае аб адплаце, якой не пазбегчы. Ён з'яўляецца юрыдычнай асновай і маральнай базай для асуджэння імперыялістычнай агрэсіі. Вось чаму ўсё чалавецтва ўспамінае сёння аб Нюрнбергскім трыбунале, чаму яно патрабуе выкарыстаць яго караючую сілу.

*ЛЕЎ БЕЗЫМЕНСКІ*



Галоўныя ваенныя злачынцы на лаве падсудных. Першы рад: Герынг, Гес, Рыбентроп, Кейтэль.

**Podlaskie Terenowe Zakłady Ceramiki Budowlanej w Białymstoku wspólnie z Białostockim Przedsiębiorstwem Budownictwa Przemysłowego w Białymstoku zatrudnią od zaraz każdą ilość zgłaszających się mężczyzn do pracy w Lewkowie pow. Hajnówka,** najchętniej z terenów pobliskich z tym, że do czasu zakończenia budowy Zakładu Ceramicznego Lewkowo II zgłaszający się będą pracować przy budowie tegoż zakładu, a następnie w miarę możliwości i potrzeb przeszkalani będą w zawodzie ceramika i po ukończeniu budowy pozostaną stałymi pracownikami nowo wybudowanego Zakładu Ceramicznego Lewkowo II, lub Lewkowo I. W celu uzgodnienia warunków pracy i płacy należy zgłaszać się bezpośrednio do kierownika budowy lub kierownika ZC Lewkowo I. k.2818-1

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ТЭКЛЯ

## пасарамацілася

У пасёлку ўсе ведалі Максіма Захаравіча, як самага цвярозага чалавека. Ён не любіць гэтага зелля. А калі іншы раз і вып'е за кампанію, дык не болей як сто грамаў. Сто грамаў саракаградусаў — гэта яго крытычны рубеж. Для жонак, чые мужы пераступяць часамі гэтую мяжу, ён быў наглядным «эталонам».

— Вось Максіма Захаравіча ніколі п'яным не ўбачыш... — папракалі яны. Асабліва Тэкля Цвяткова.

Але сёння ў лазні...

Сёння ён ледзь не згубіў сваю марку.

Выйшаўшы з гардэроба, Максім Захаравіч, як заўсёды, рашыў асвяжыцца піўком. Балазе, буфет у вестыбюлі.

— Мне бутэльку піва, — звярнуўся ён да буфетчыцы.

— А для Сашкі — ліманаду.

— Не хачу ліманаду!.. — затупаў нагамі сын. — Сто грамаў хачу... Сто грамаў!..

Тыя, хто знаходзіўся тут, міжволі звярнулі ўвагу на гэты выраз. А Тэкля Цвяткова праявіла асаблівую зацікаўленасць. Ад нечаканасці застыла.

— Ці бачылі вы, людзі, — зрабіла яна свой маланкавы вывад, — вось табе і непітушчы... Гэта пры людзях не п'е, а дома нават і малога прывучыў... Бачыце, сто грамаў патрабуе.

І хоць ніхто яе не слухаў, працягвала:

— Я ж і раней бачыла, што хітруе, прытвараецца, паказвае сябе... А дома, бач, без гарэлкі нават за стол не сядзе...

І тарахцела б без канца, калі б да яе вуха не далящэў голас буфетчыцы:

— Не плач, Сашка!.. Вось тваё сто грамаў барбарысак, якія ты любіш... Еш на здароўе...

Узяўшы цукеркі, Саша змяніў слёзы на ўсмешку, а Тэкля раптам залілася чырванню...

*Міхал Жукаў*





### ХТО ЛЕПШЫ

Сяброўкі аб сваіх мужах:

— Мы з Янкам сварымся кожны тыдзень.

— У нас сваркі бываюць радзей. Кастусь прыносіць палучку раз у месяц.

### СУЧАСНЫЯ ДЗЯЎЧАТЫ

— Сучасныя дзяўчаты выходзяць замуж значна раней...

— І значна часцей...

### УРАЖАННІ

— Ну што, быў у рэстаране?

— Быў.

— Якое ж уражанне ты адтуль вынес?

— Не я вынес, мяне вынеслі.

— *Мы не вінаваты. Паводка закончылася надта хутка!*

## ЖАНАТЫ

«Ужо сядзеў бы ў хаце, —
Казалі мне не раз. —
Калі ты, брат, жанаты,
То з хаты не вылазь».
Ды жонка маладая,
Рыхтуючы абед,
У горад выпраўляе
Па вермішэль, па хлеб.
Знаёмую сустрэну —
Знаёмы шэпча зух:
«Вось раскажу я Жэні —
Папух ты, брат, папух!»
Ці стану у чаргу дзе
З дзяўчынай незнарок,
Зноў: «На арэхі будзеш
Мець сёння, галубок!»
Але чым болей спрэчак,
Тым больш марокі мне;
Напомніць мне пра
Жэню
Ніхто не праміне.
Дакуль жа будуць
жарты?
І я згаджацца стаў:
Так, так, на тых дзяўчат я
Патрошку пагляддаў.
І — зніклі ўсе пакуты,
Прастыў тых жартаў
след.
...У хаце я замкнуты —
Купляе жонка хлеб.

*В. Рэчыц*

### Ў ЛЕКАРА

Лекар, выслухаўшы пульс хворага, кажа:

— Ваш пульс б'ецца вельмі памалу.

— А што, у вас часу няма?

### АДВЫКАЕ

— У цябе ёсць папяросы?

— Вазьмі, калі ласка! Але ж ты нядаўна гаварыў мне, што адвыкаеш ад курэння...

— Вядома, але я знаходжуся яшчэ на першай стадыі адвыкання: я перастаў купляць папяросы!

### АКУЛЯРЫ

— Навошта вы, бабулю, акуляры надзелі? — запытала ўнучка.

— А яны, любая мая, павялічваюць усе рэчы.

— А вы, бабулю, іх скіньце, калі будзеце мне адрэзваць пірог.

### У ГЭТЫМ І СПРАВА...

Да адной жанчыны падыходзіць мужчына і гаворыць:

— Пазычце, цётачка, сто злотых.

— Як жа я вам пазычу, калі зусім вас не ведаю? — адказала жанчына.

— У гэтым і справа: хто мяне ведае, той не пазычыць.

### АМЕРЫКА

Сын звяртаецца да бацькі — мільянера:

— Тата, я запэўніваю цябе, што ў жыцці ёсць многа рэчаў, куды больш каштоўных, чым грошы!

— Так, Джоні, але ўсе яны каштуюць масу грошай!..







*Без слоў.*

### ПЕРАПЛЫЛІ

На возеры двое рыбакоў увесь вечар лавілі рыбу, ды нічога не злавілі. Са злосці яны добра выпілі і вырашылі на лодцы пераправіцца на супрацьлеглы бераг.

Веславалі ўсю ноч. Калі развіднелася, адзін з іх заўважыў:

— Эх, Сцяпане, шкада, што мы ўчора забылі адвязаць лодку.

### ШЧЫРЫ ПАСЛУГАЧ

— Ты ведаеш, Пятро, у мяне гэтай ноччу так балелі зубы, што я аж на сцяну лез. Не ведаю, што і рабіць, калі і гэтай ноччу будуць так балець, — гаворыць пан свайму паслугачу.

— Дык можа, пане, на гэту ноч драбіну падставіць? — запрапанаваў паслугач.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе групы сяброў з Кэнтшына: Веры і Віталія Чыжэўскіх, Надзеі Дычкоўскай, Любы Лукашук, Зосі Аверчук, Зіны Рынк, Марыі Галасік, Аляксандра Сураўца, Мікалая Барташука, Ірэны Каленік, Ольгі Грыц, а таксама Зіны Шэрамет з Коршаў і Хадкевіча з Мрангова зьмяшчаем песню:

## Чудный месяц

(Старинная народная песня)

Чудный месяц плывёт над рекою,
Всё в объятьях ночной тишины.
Я сижу и любуюсь тобою,
Здесь с тобой, дорогая моя.

Ничего мне на свете не надо,
Только видеть тебя, милый мой,
Только видеть тебя бесконечно,
Любоваться твоей красотой!

Но, увы! Коротки наши встречи,
Ты спешишь на свиданье к другой...
Так иди, пусть одна я страдаю,
Пусть напрасно волнуется грудь.

Для кого я жила и страдала
И кому я всю жизнь отдала?
Как цветок ароматный весною,
Для тебя одного расцвела!

Ты поклялся любить меня вечно,
Как голубку, лаская меня,
А теперь, насмеясь бессердечно,
Ты навек мою жизнь погубил.

И, как срезанный колос, я пала
Под судьбы беспощадным серпом.
Я просила тебя, умоляла:
«Приди, милый, проститься со мной!»

А ты, подлый, другую ласкаешь,
И смеешься, тиран, надо мной.
Нам теперь уж с тобой не сойтися,
Верно, так уж угодно судьбе.

Но могила моя одинока,
К ней молиться никто не придет,
Только яркое солнце высоко
Над крестом моим бедным взойдет.

Белый камень лежит одиноко,
Точно сторож могилы моей.
Отчего не проснёшься ты снова,
Тот цветок ароматный полей?

### З ЖЫЦЦЯ БГКТ

У вясковай святліцы прыезджы актывіст БГКТ захвальвае пажылому дзядзьку «Беларускі каляндар»:

— Купіце. Не пашкадуеце. Самі пачытаеце і жонка карысць будзе мець: у календары ёсць кулінарныя парады, навучыцца ваша старая варыць па-новаму і вы яе больш любіць будзеце.

Не вытрымаў красамоўства агітатара сусед дзядзькі і кажа:

— Вы лепш парайце яму, як ажаніцца.

Выявілася, што агітаваны быў старым кавалерам.

Вывад: найлепш, калі «каляндар» прадаюць мясцовыя актывісты.



### «СНОЎМОТАПОЛА»

Час ад часу асартымент спартыўных гульняў, якія ўзніклі на аснове класічнай гульні ў пола, папаўняецца новымі варыянтамі гэтай гульні: воднае пола, пола на веласіпедах, матацыклах, аўтамабілях. Апошняя навінка ў гэтай галіне — пола на сноўмабілях. У кожнай з каманд, якія спаборнічаюць, прымаюць удзел 3 сноўмабілі. Гульня вядзецца літым гумавым мячом дыяметрам каля 5 см і працягваецца 4 перыяды па 15 мінут, з 10-мінутнымі перапынкамі пасля першага і трэцяга перыядаў і 20-мінутным перапынкам паміж другім і трэцім перыядамі.

Размеры поля — прыкладна 300 на 165 м. Стойкі варот (жалезныя бочкі) разнесены на 6 м адна ад адной. Для таго, каб пазбегнуць сутыкненняў машын, устаноўлен рад правілаў іх руху.

### ДЛЯ ВЕЛЬМІ НІЗКАРОСЛЫХ

Клініка ўнутраных хвароб Шчэцінскай медыцынскай акадэміі, якой кіруе прафесар М. Зэйснер, спецыялізуецца ў «рэгуляванні» росту людзей. Лячэнне гармонамі, праўда, даволі працяглае, дае вельмі станоўчыя вынікі. У Шчэціне, напрыклад, жывe чалавек, рост якога дзякуючы лячэнню ў клініцы павялічыўся на 25 см!

### КОЛЬКІ КАШТУЕ МІЛЬЯНЕР?

42-гадовы англійскі магнат Джым Слэйтэр сам вызначыў сабе цану — 10 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. На такую суму ён вырашыў застрахаваць сваё жыццё. Жыццё пяці галоўных адміністратараў яго фірмы Слэйтэр — Уокэр будзе застрахавана на агульную суму ў 5 мільёнаў фунтаў.



**Самакрытыка — не самалячэнне: часам яна прыносіць карысць.**